Год I. Ліпень-Жнівень 1932 г. № 7-8.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!




Ты єси Пѣтръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Матд. 16. 18.

БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН.

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ № 6-7.



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.

„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!
Беларуская рэлігійная часопіс.
Альбэртын Ліпень-Жнівень. 1932 г. № 7-8.

# *Праабражэньне Гасподне.*

(6 жніўня).

*Паводле сьв. Мацьвея, разьдзел 17, 1—а; зачала 70.*

*1. Таго часу ўзяў Ісус Пётру, Якуба і Іоана, брата яго, і узьвёў іх на высокую гару адных.*

*2. І перамяніўся перад імі: і заясьнеў твар Яго, як сонца, адзежа ж Яго зрабілася белая, як сьвятло.*

*3. І вось, зьявіліся ім Майсей і Ільля, размаўляючы з Ім.*

*4. І, азваўшыся, Пётра сказаў Ісусу: Госпадзе, добра нам тут быць: калі хочаш, зробім тут тры палаткі: Табе адну, і Майсею адну, і адну Ільлі.*

*5. Калі-ж ён яшчэ гаварыў, вось, сьветлая хмара ацяніла іх, і вось, голас з хмары гаворачы: Гэты ёсьць Сын Мой Узьлюблены, якому спагадаю; Яго слухайце.*

*6. І, пачуўшы, вучні ўпалі на твар свой і дужа перапужаліся.*

*7. І, падышоўшы, Ісус дакрануўся да іх і сказаў: устаньце і ня бойцеся.*

*8. Падняўшы ж вочы свае, ня відзелі нікога, апрача самога Ісуса.*

*9. І калі зыходзілі яны з гары, Ісус загадаў ім, кажучы: нікому не кажэце пра гэтае відзеньне, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсьне з памёршых*

---

*„І перамяніўся перад імі: і заясьнеў твар Яго, як сонца, адзежа-ж Яго зрабілася белая, як сьвятло". (Мат. 17, 2).*

Дзіўнага зьявішча былі сьведкамі апосталы Пётра, Якуб і Іоан: перад іх вачыма Ісус Хрыстос праявіў сваю Боскую магутнасьць і славу. Гэты-ж самы іх Умілаваны Вучыцель, Каторага яны штодзень бачылі, Каторы заўсёды быў адзеты вельмі ўбога, як і апосталы, Каторы нічым вонкава ня розьніўся ад іншых людзей, цяпер перад імі на Фаворскай гары паказаўся ў поўнай сваёй магутнасьці і славе, як над'земная істота, як „Бог": *заясьнеў твар Яго, як сонца.*

На пацьверджаньне таго, што Ісус Хрыстос ёсьць абяцаны Мэсыяш, зьяўляюцца побач яго Майсей і Ільля, два найважнейшыя прарокі Старога Закону.

А на пацьверджаньне таго, што Хрыстос, ня толькі ча-

лавек, але і Бог, даўся чуць голас Госпада Бога з вобалака: *„Гэты ёсьць Сын Мой Узьлюблены, як 'му спагадаю, — Яго слухайце"*.

Паўстае пытаньне, чаму Ісус Хрыстос перамяніўся на Фаворскай гары, якую ў гэтым зьяўленьні меў мэту?

Гэтае здарэньне мела месца незадоўга да страшэнных мукаў, вялікага паніжэньня і ганебнай сьмерці Хрыста на крыжы. Праз выяўленьне свае магутнасьці і Боскай славы, Ісус Хрыстос хацеў цудоўным спосабам узмацаваць веру ў сваіх найбліжэйшых вучнях. Праяўляючы сваю магутнасьць Ісус Хрыстос хацеў пераканаць сваіх вучняў, што цярпеў мукі і паніжэньне па сваёй волі. Гэта думка пацьвярджаецца словамі кандака сяньняшняга сьвята: *да егда Тя узрятъ распинаема, страданія убо уразумѣютъ вольная, міров же проповѣдятъ, яко Ты еси воистину Отчее сіяніе*.

Перамяненьне Ісуса Хрыста на Фаворскай гары мае і для нас моральнае значэньне: як Хрыстос перамяніўся, прыняўшы замест зямнога, нябесны выгляд, так сама і мы, хрысьціяне, маем кіравацца не паводле пажаданьня цела, але духа. Мы мусім скінуць з сябе старога чалавека, чалавека граха, а зрабіцца новым, створаным на падобнасьць Хрыста, у праўдзе і спадабаньні справядлівасьці.

Кожны з нас мае падобныя прывычкі і дрэнныя нахілы, каторыя яго прывязваюць да зямлі. Шмат маем у сабе самалюбства, прывязанасьці да рэчаў зямных, — жывём так на зямлі, як-бы заўсёды мелі тутака быць, зусім ня дбаем пра будучыню ў вечнасьці. Вельмі рупімся аб патрэбах нашых жыцьцёвых, зямных, а мала дбаем, а мо' і зусім ня рупімся аб шчасьці вечным. О, не! так быць не павінна, хрысьціянін мусіць заўсёды памятаць, што жывець для шчасьця вечнага, дзеля каторага ня трэба нічога шкадаваць, нават свайго жыцьця. Так піша сьвяты Апостал Павал: *„Восъ-жа вельмі прашу вас, аддайце целы вашыя на ахвяру жывую, сьвятую, угодную Богу, на разумнае служэньне вашае, і не датарноўвайцеся да веку гэтага, але пераабражайцеся абнаўленьнем розуму вашага, каб вам пазнаваць, што Воля Божая, добрая, угодная і дасканальная"* (Рым. 12, 1—2).

Воля Божая ёсьць, каб мы стараліся перамяніць у сабе, што маем дрэннага, на добрае: калі хто быў самалюбным — хай стараецца быць самаахвярным для другіх; хто мае нахіл да пыхі, хай практыкуе пакору; хто паддаваўся спакусам цялесным, хай цяпер кіруецца розумам і не паддаецца пажаданьням цела, хто ленаваўся, хай змусіць сябе да працы. Вельмі шмат яшчэ можна было-б вылічыць розных заганаў, каторыя трэба перамяніць на цноты.

Шмат гісторыя нам падае прыкладаў праўдзівага духоўнага праабражэньня. Возьмем хоць-бы навярненьне сьв. Марыі Эгіпэцкай, што жыла ў V стагодзьдзі. Маючы 12 гадоў жыцьця, пакінула яна дом сваіх бацькоў і пайшла да

вялікага гораду Александрыі, дзе ў працягу 17 гадоў вяла грэшнае жыцьцё. Аднаго разу ўгледзіла, што шмат людзей рупіліся папасьці на параходы, што адыходзілі да Ерузаліму на сьвята Ўзвышэньня Сьвятога Крыжа. На гэты дзень выстаўлялі Крыж Збаўцы у сьвятыні на гары Кальварыйскай, для публічнага пачытаньня. Праз цікавасьць і Марыя Эгіпэцкая паехала з імі да Ерузаліму. Прыехаўшы, хацела разам з іншымі ўвайсьці да сьвятыні, але нейкая нявідочная сіла ўстрымлівала яе ў дзьвярох. Спалохаўшыся, схавалася ў куточку сеняў і задумалася аб прычыне гэтага здарэньня. І вось угледзіла яна на сьцяне вісіць Абраз Маці Божае. Раптоўна прыпомніла сабе тыя набожныя малітвы, што, будучы яшчэ нявіннай дзяўчынкай, у доме бацькоў адмаўляла перад абразом Маці Божай, таксама прыпомніліся ёй збаўчыя навукі маткі. Упала на калені, ізноў, як даўней, з гарачым сэрцам адгаварыла малітву да Прасьвятой Багародзіцы і прасіла ў яе падмогі. Цяпер абудзілася ў ёй сумленьне, і пачула згрызоты па прычыне распуснага жыцьця. Вельмі каялася за свае грахі і пастанавіла пайсьці на пустыню, каб вясьці пакутнічае жыцьцё. Потым-жа справабавала ізноў увайсьці да сьвятыні і тым разам удалося ёй. Не адкладаючы, на другі дзень адбыла споведзь з цэлага жыцьця і пасьля 50 гадоў жыла, як пакутніца, на пустыні.

Вось прыклад праўдзівага перамяненьня, праўдзівай перамены жыцьця. Дай Божа, каб і мы маглі перамяніць у сабе, што ёсьць дрэннага, грахоўнага, на добрае, — каб і мы маглі жыць не паводле пажаданьня цела, але духа, паводле прыкладу і навукі Хрыстовай.

*а. Антоні.*

---

## ПЕСЬНЯ НА ЧЭСЬЦЬ СЬВ. ІГНАТА

Сьвяты Ігнацы, Ойча даражэнькі,
Адважны рыцар пры войску Хрыстовым,
Мы твае дзеці, слабыя, маленькі —
Пад сьцягам новым!
Ойча. успомні на сваё змаганьне!
Зламаўшы пыху, збунтавана цела,
Ты нішчыў, крышыў пекла панаваньне
Адважна, сьмела.
Шчыра маліўся слабы, навет хворы,
Вочы спусьціўшы, ўпаўшы на калені,
Адданы Богу, ў глыбокай пакоры —
У трэцьцяй ступені.
Для Божай хвалы, людзкога збаўленьня,
Сьвет запаляеш словам пламяністым,
Пішаш натхнёнай рукою цьвічэньні,
Сэрцам агністым.
Сьвет у пакуце душой аднаўляўся,
Брама пякельна да грунту дрыжэла,

Аж сам Люцыпар зьнішчыць тое ўзяўся
Божае дзела.
Вайна дагэтуль вострая трывае:
Тут міласьць, вера, а там злосьць варожа;
Хто брамы пекла наскрозь паламае?
Пэўна — моц Божа!
Рыцары сьмелы, тарарышы новы,
Мы тож прыложым усе свае сілы,
Пад сьцягам новым мы слугі Хрыстовы
Аж да магілы!
Дзеці айчыны мілай, даражэнькай,
Для душ збаўленьня хочам працаваці
У простай мове, ў зямлі Беларускай —
У роднай хаце.
„Глянь, Ойча, з неба!“ — дзеці уздыхаюць,
Слабеюць вельмі — бараніць вазьміся —
У цяжкай працы рукі aпадаюць,
Ойча, сьпяшыся!

*Н.*

---

**Ніколай Бердяев.**

# Аб'яднаньне хрысьціян Усходу і Захаду.

**Каталіцкае выдавецтва „Matthias Grunewald Verlag Mainz“ зьмясьціла ў сваім гадавіку за 1926 г стацьцю прафэсара вышэйшае расейскае школы ў Парыжы Мікалая Бердяева „Von der Vereinigung der Christen der Ostens und Westens“. З увагі на характарнасьць поглядаў аўтора — прадстаўніка вышэйшых духам ды менш шовіністычных сфэраў праваслаўнага Ўсходу — падаем гэну стацьцю цалком у нашай часопісі, хаця не на ўсё, што ў ёй сказана, можна згадзіцца. РЭД.**

Разьдзел цэркваў, ці лепш кажучы: расшчэп (раскол) хрысьціян, ёсьць найбольшаю няўдачаю хрысьціянства ў гісторыі. Гэтая няўдача сьведчыць аб тым, якою свабодай Божы Правід абдарыў чалавека, і як цяжка надужыў чалавек гэнай свабоды. У самай Царкве Хрыстовай ня можа й гутаркі быць аб разьдзеле, разлучэньні, бо Царква ёсьць толькі адна і то суцэльная; яе суцэльнасьць зазначаецца тым, што Хрыстос у ёй жыве, што яна перадае дары ласкаў і што ў ёй падаюцца сьв. Тайны. Не Царква раскалолася, а хрысьціянскае чалавецтва. Расшчэп адбыўся ў царстве цара, якое сплялося з царствам Божым, але ня ў Божым царстве, бо ў ім ніякі разьдзел немагчымы.

Адна і тая самая вечная праўда хрысьціянскага аб'яўленьня індывідуалізуецца ў розных расах, нацыях, асабістасьцях. Абсолют хрысьціянскае праўды ні ў чым не працівіцца гэтакай індывідуалізацыі. Паміж унівэрсальным і ін-

дывідуальным няма ніякіх, выключаючых сябе, праціўнасьцяў. Унівэрсальнае і індывідуальнае супольна належаць да конкрэтнае еднасьці.

Абсолютная праўда хрысьціянства мае аднак людзкога спадкаберніка. Людзкі элемэнт ня ёсьць тутака пасыўным, толькі актыўным і рэагуе творча ўсялякім спосабам на ўсё, што яму аб'яўляецца. Ён якраз вытварае рознаякасьць формаў. Але ў гэтым няма нічога злога. У доме Айца ёсьць шмат памешканьняў. Зусім запраўдным і натуральным зьяўляецца ўсходні і заходні тып хрысьціянства, дый тып романскага і гэрманскага хрысьціянства. Трэба ад'значыць, што ўжо ў першых вякох выявілася розьніца ў тыпах ўсходняга і заходняга хрысьціянства. Патрыстыка Ўсходу і патрыстыка Заходу духам сваім былі дужа рознымі; у абедзьвюх палавінах хрысьціянскага сьвету вытварыліся розныя формы набожнасьці. Адна палавіна хрысьціянскага сьвету пераняла насьледкі Грэцыі, а другая — насьледкі Рыму. І хоць-бы на'т ня было прышло да катастрофы фармальнага расколу ў Хрыстовай Царкве, каторы тады толькі давяршыўся, як розьніцы ў абодвух тыпах хрысьціянства былі выстарчаюча дасьпеўшымі—то ўсё роўна ўтрымаліся-б востра заіндывідуалізованымі ды аддзеленымі ад сябе тыпы ўсходняга і заходняга хрысьціянства.

З праваслаўнага становішча можна заўважыць, што нават пры ўдзяржаньні царкоўнае еднасьці існавала-б лацінскае хрысьціянства, ды што гэта лацінскае хрысьціянства расейскаму праваслаўнаму чалавеку выдавалася-б дужа чужым. Праваслаўныя расейцы, якія варожа адносяцца да каталіцызму, кажуць, што яны ня могуць зьнясьці ні лацінскае мовы, ні гладка-голеных твараў каталіцкіх сьвящчэньнікаў і што яны склонны ў лацінскай на'т мове і ў голеных абліччах бачыць гэрэтычнасьць. Так моцна дзеюць нацыянальныя ўпярэджаньні! Тымчасам, калі прыглядзяцца бліжэй да працэсу рэлігійнае індывідуацыі, то мусяць таксама прызнаць, што і нямецкі каталіцызм ніяк ня прысвоіў сабе лацінскага духу. каторым так моцна пераняўся каталіцызм романскіх народаў. Хопіць узяць пад увагу нямецкую містыку, каторая ў сваёй сутнасьці ёсьць каталіцкаю, ды параўнаць яе з каталіцкаю містыкай гішпанцаў, італьянцаў або французаў: Teuler, Suso і Jan van Ruysbroeck, ці Angelus Silezius, што быў прыстаронным і нетолерантным каталіком,—належаць зусім да іншага духовага сьвету, як сьв. Іван ад Крыжа, як сьвятая Тэрэса, блажэнная Анеля, або сьв. Францішак з Салес. Нямецкая каталіцкая тэолёгія менш рацыяналістычна, як француская або італьянская ды менш у ёй дасьледжваецца лацінскага залюбленьня ў чыстаце формаў. Такі тэолёг, як Scheben, быў-бы ў Францыі зусім немагчымым. Сьв. Тамаш з Аквіну быў тыповым італьянцам, лацінскім геніем, геніем формы і меры. А нямецкі дух даў та-

кога містыка, як Eckehart. Прагэстантызм быў па большай часьці творам нямецкае расы і яе індывідуальных формаў рэлігійнасьці. Быў хвараблівым пратэстам проціў рэжыму лацінскага унівэрсалізму. А калі індывідуалізаваньне ў хрысьціянстве заходняга сьвету гэтак моцна зазначалася, калі яно мае сваё месца нават сярод самога каталіцызму, то наколькі-ж глыбей сягаюць гэтыя індывідуалізацыі, і розьніцы, калі параўняць хрысьціянства Ўсходу і Захаду. Не догматычныя і царкоўна-канонічныя розьніцы між праваслаўем і каталіцызмам ёсьць тут аснаўнымі і галоўнымі, але розьніцы духовага тыпу і духовага досьведу, містычнага кірунку. Хоць-бы праваслаўныя й не спрачаліся з каталікамі, аб Filioque ды аб непамыльнасьці папы рымскага, то ўсё роўна яны ніколі ня зблізяцца до ўзаемнага паразуменьня*). Тут змагаюцца два сьветы, якія пайшлі рознымі дарогамі а на сваіх дарогах назьбіралі розных жыцьцёвых досьведаў. Вось праз гэта цяжка ім сябе ўзаемна зразумець. Згода на нейкае абстрактна-фармальнае думаньне, супярэчнае ці несупярэчнае, ані трошкі ня прычыніцца да ўзаемнага паразуменьня. Гэтае пытаньне ня вырашыцца ані ў фармальна-догматычнай, ані ў фармальна-канонічнай плашчыні. Для Ўсходу здаецца непатрэбнай і непамыльнасьць папы рымскага і вонкавая еднасьць царкоўнае арганізацыі, а для Захаду яны неабыходны, бо Усход і Захад пайшлі рознымі гістарычнымі дарогамі, на якіх набылі розныя духовыя досьведы.

Першадаўнае хрысьціянства было эсхатолёгічным; яно ня мела ніякае гістарычнае пэрспэктывы; яно чакала хуткага канца сьвету ды другога прыходу Хрыста. Але хрысьціянству было празначана зрабіцца гістарычнаю магутнасьцю. Яно не магло доўга жыць тымі выключна харызматычнымі дарамі, якія ажыўлялі першых хрысьціян, яно мусіла вырабіць у сабе органы для бесьперарыўнага гістарычнага жыцьця і барацьбы. Усходняе хрысьціянства, каторае ўнасьледавала гэльленістычны дух, было больш мэдытатыўна настроена; яно цікавілася догматычнымі пытаньнямі й догматворчая дзейнасьць была творам усходняе патрыстыкі. На Ўсходзе паўстала і гэрэтыцкая і хрысьціянская Gnozis, запачаткаваная Клемансам Александрыйскім. Захад быў больш практычным, рэальным; ён пераняў у спадку рымскі дух, ён цікавіўся больш арганізацыяй царквы і моральнаю псыхолёгіяй. На Захадзе прыйшло хрысьціянства скарэй да сваіх гістарычных задачаў. Заходняя царква ад'значылася ўласьціва, як ваюючая царква. На яе долю прыпалі магутныя дзяржаўніцкія і гістарычныя задачы, пасьля развалу рымскае імпэрыі на Захадзе.

На Ўсходзе царква патрапіла захаваць назаўсёды эсхатолёгічны характар. Праваслаўе болей зьвярталася да вечнага жыцьця для царства нябеснага, як да зямнога жыцьця,

---

*) Не згаджаемся з пэсымістычным паглядам аўтора. (Рэд.)

да гістарычнага заваяваньня сьвету хрысьціянствам. Царква на Захадзе зрабілася ваяўнічнаю гістарычнаю магутнасьцю; яна ўпоўні зразумела сваю ваяўнічую задачу ўсясьветнае дзяржавы — апанаваньне ўсяго сьвету. Заходняя царква, ўжо пачынаючы ад сьв. Аўгустына, лічыла сябе царствам Божым на зямлі. Гістарычная пэрспэктыва прыкрыла зусім эсхатолёгічную пэрспэктыву.

Хрысьціянства Заходу было па свайму тыпу актуальнае і больш ваяўнічае, яно імкнулася да панаваньня на зямлі, да творчасьці гістарычнай. Адсюль выплывае нязвычайна высокае цаненьне прынцыпу арганізацыі. Для каталіцызму характарная ёсьць сьведамасьць, што ўсё павінна быць зарганізована і паддана вонкавай еднасьці: душа, грамадзкасьць, культура павінны быць зарганізованымі; царква — ў значэньні унівэрсальнае еднасьці, — павінна быць зарганізована; рэлігійная думка, сыстэма тэолёгіі і філёзофіі мусіць быць таксама зарганізована. Усюды трэба вырабіць аружжа барацьбы са сьветам, да якое царква паклікана. Царква мусіць у сваім распараджэньні мець арміі і цьвярдыні. А ўсё гэта павінна быць ператворана ў адно войска, ў адну цьвярдыню: душа, грамадзкае жыцьцё, думкі. Схолястыка, гэта нішто іншае, як узбраеньне думкі да барацьбы, да наступу і абароны. Тэолёгічная й філёзофічная сыстэма сьв. Тамаша з Аквіну, гэта магутная, прыгожа, стройна ўладжаная цьвярдыня, як наагул цэлая каталіцкая царква.

Я ведаю, што цэлы каталіцкі сьвет вельмі багаты, скомплікованы ды вельмаякі. што ў ім шмат ёсьць тэхнікі. Гэта ані ня прыпадак, што ў хрысьціянскім Захадзе пераважвае арыстотэлізм. Толькі ў катэгорыях арыстотэлеўскае філёзофіі, арыстотэлеўскае навукі аб форме і матэрыі, аб потэнцыі і акце мог выявіцца кірунак заходняга хрысьціянства. Форма арганізуе матэрыю жыцьця, матэрыю сьвету; сьвет мусіціме ў канцы паддацца зарганізованай форме. Царкоўная гіерархія падчынена аднаму суцэльнаму, вярхоўнаму асяродку, царкоўная доктрына ёсьць тым арганізуючым прынцыпам, які мусіць панаваць, і ня сьмее сьцярпець, каб матэрыя хаотычна вылівалася ды сама ў сабе дзялілася. Потэнцыя ёсьць недасканальная ды нявыразная істота, ёсьць поўістотай, — толькі акт ёсьць праўдзівай, поўнай істотай. Бог ёсьць чыстым актам і ня мае ў сабе ніякае потэнцыі. Таму і каталіцкая царква імкнецца на зямлі да таго, каб зрабіцца чыстым актам і ня церпіць перамогі потэнцыі, ды ня зносіць ніякае бязвыразнасьці разам з яе ўсемагутнымі магчымасьцямі. З гэтым пунктам гледжаньня хрысьціянства Заходу,каталіцызм пераймае спадчыну старадаўнага думаньня: яно ёсьць клясычным, яно баіцца бесканечнасьці, яно знаходзіць у абмяжованасьці, у азначанасьці выразы дасканальнага быцьця.

А ў хрысьціянстве Ўсходу пануе зусім іншы дух. Для

Усходу ёсьць бліжэйшым плятонізм, чымся арыстотэлізм. Праваслаўе ёсьць больш мэдытатыўным і эсхатолёгічным, а менш ваяўнічым і актуальным. У праваслаўнай царкве знаходзіца больш элемэнту потэнцыяльнага, гістарычна яшчэ неперавробленага, а яна сама ня лічыць гэна ані за прымету нейкага недахопу, ані нейкага палавінчатага існаваньня. Эсхатолёгічная пэрспэктыва жыцьця мусіць захаваць для сябе большую потэнцыяльную магчымасьць.

Энэргія тут не растрачваецца ў арганізованым акце гісторыі, духовыя сілы астаюцца ўнутры сконцэнтрованымі. Тут ёсьць шмат вялікага эсхатолёгічнага і апокаліптычнага чаканьня канца сьвету і другога прыходу Збаўцы, ёсьць тутака зварот да Ерузаліму, які мае зыйсьці на зямлю. Праваслаўе ёсьць менш будаўнічым, чымся каталіцызм; для яго больш падходзіць агляданьне мудрых істотаў, сьвету ідэяў, сьвету мудрасьці, софіотычнага роду твораў. Яно не ўяўляе сабе сьвету, як апанаваньне матэрыі формаю. Жыцьцё ўсясьвету не арганізацыя, толькі арганізм, дый царква перш за ўсё арганізм, цела Хрыстова. Арганізатарскі мамэнт ёсьць тут наскрозь пабочным, другарадным. Унутраная еднасьць царквы не выражаецца вонкаваю арганізацыяй царкоўнае еднасьці. Саборнасьць — экумэнічнасьць не разумецца гарызонтальна, толькі простападна, квалітатыўна, а не квантытатыўна. Магутная свабода духу зазначаецца ў праваслаўі і тым, што праваслаўе ня ставіць сабе за выключную мэту: зрабіцца арганізацыяй сьвету, гвалтам даць матэрыі форму, актуалізаваць жыцьцё царквы. Валадарства нябеснае набліжаецца нявідочна. Праваслаўе ня імкнецца да таго, каб за ўсякую цану мець на зямлі перамогу. Вось гэта дае яму свабоду; зарганізаваная армія ня можа пачуваць сябе свабоднаю ў вайне, на полі бітвы, у крэпасьці; яна павінна быць строга здысцыплінована і падчынена ваеннаму начальніку. Але жыцьцё ня ёсьць выключна вайною, а хрысьціяне — гэта-ж ня армія. Гэта паказваецца таксама і сярод каталіцкага сьвету, у якім разьвілося больш скомплікованае творчае жыцьцё, багацейшая культура, як на Ўсходзе. А ўсё-ж пануе тут перш за ўсё ідэя зарганізованае, ваюючае царквы,

Праваслаўныя мысьліцелі прывыклі часта нападаць на Filioque, бо ў гэнай форме выражаецца падуладная пазыцыя Сьвятога Духа, „субордынацыялізм" у разуменьні трэцяе асобы-гіпостазы, а ўцьвярджаецца хрыстоцэнтрызм, які перашкаджае Сьвятому Духу зыходзіць на сьвет і на чалавецтва. Праваслаўе ў сваім першапачыне і аснове ёсьць хрысьціянствам, якое раскрывае прыроду Сьвятога Духа. Затым яно й прыхіляецца да містэрыі ўваскрашэньня і пераісточаньня стварэньняў. Найважнейшым сьвятам ортодоксыі ёсьць Уваскрасеньне Хрыстова. У заходнім хрысьціянстве стаіць у асяродку Хрост, Гольгота, Духовы тып усход-

няга хрысьціянства, ортодоксыі, крые ў сабе вялікія труднасьці для гістарычнага жыцьця, для стварэньня культуры ў сабе. Эсхатолёгічнае прытарнаваньне ортодоксыі, адхіленьне яе ў бок жыцьця вечнага, да канчатку сьвету, мела ў насьледках тое, што працу над будовай, развіцьцём жыцьця было ўзложана выключна на дзяржаву, на цара, на памазанага царквою на царстваваньне. Царква ня была пастаўлена нароўні з дзяржаваю, дый яна не прыняла на сябе задачаў дзяржаўных; таму звонку падчынілася яна дзяржаве ды пасьля зрабілася нявольніцаю дзяржавы, як гэта мела месца ў Візантыі, або ў Расеі падчас Пятровае ўлады. Эсхатолёгічны настрой параліжаваў творчую энэргію праваслаўных. Аднак апокаліптычная самасьведамасьць расейскіх рэлігійных мысьліцеляў XIX ст. прымала нераз актыўны, творчы характар і была зьвязана з паўстаньнем новае пнэўматычнае эпохі ў хрысьціянстве. Параклетызм ёсьць уласьцівы сваім багацьцем расейскім мысьліцелям. Ортодоксыя больш, як хрысьціянства Захаду, захавала ненарушанымі праўды першабытнае царквы, і таму яна стаіць бліжэй да першабытнага хрысьціянства. На духовай падставе ортодоксыі ёсьць больш магчымай апокаліптычная сьведамасьць, прарочае прадчуцьцё, бо ортодоксыя менш занята гістарычнаю актыўнасьцю, якая засланяе пэрспэктыву акančальнае долі чалавецтва. Каталіцызм замоцна актывізаваўся ў гісторыі*). У ортодоксыі крыюцца яшчэ магутныя, не скарыстаныя і ня выжытыя духовыя сілы. Я, як праваслаўны, мушу прызнаць духовую перамогу мае царквы. Думаю аднак, што індывідуалізованыя духовыя тыпы ўсходняга і заходняга хрысьціянства маюць апраўданьне свайго істнаваньня і мусяць затрымаць яго аж да канца сьвету. Ніводзін з гэтых тыпаў, узяты асобна, ды з гэтых дарог не прадстаўляе з сябе паўнаты хрысьціянства. Экумэнічнасьць хрысьціянства астанецца потэнцыяльнаю, яна ня ёсьць упоўні зактуалізованай і прыведзенай вонкава да свайго выразу. А як яна прыйдзе да свайго выразу, тады засьвітае новая эпоха хрысьціянства, большая паўната ў жыцьці царквы, інтэгральнае, замкнёнае ў сабе, космічнае разуменьне царквы. Зіндывідуалізованыя**) тыпы хрысьціянства мусяць існаваць далей, бо яны прычыняюцца да яго ўзбагачэньня, толькі сварка і ворагаваньне мусіцьмуць шчэзнуць. Мы молімся за злучэньне цэркваў, за злучэньне хрысьціянскага сьвету. Паўстае толькі пытаньне: на якую нам зыйсьці дарогу, каб прыйсьці да гэнай еднасьці?

Давяршэньне гэтай еднасьці хрысьціянскага сьвету, канчатковы трыумф экумэнічнае царквы, прадстаўляецца звычайна ў злучэньні цэркваў. Агульна вераць, што імкненьні

*) Актыўнасьць не канечна мусіць быць прычынай зужыцьця. (Рэд.)
**) Індывідуальнасьць ня трэба мяшаць з разьдзелам, як здаецца робіць аўтор. (Рэд.)

хрысьціян Усходу і Захаду да еднасьці мусяць знайсьці выраз у злучэньні цэркваў. Аднак ідэя злучэньня цэркваў у сваёй сутнасьці ня ёсьць шчыраю, ня ёсьць праўдзіваю. Як праваслаўныя, так і каталікі вераць, што царква ёсьць супольнай, што яна ня можа раскалоцца, а праз гэта ня можа і злучыцца. Аднак рэлігійна-царкоўнае жыцьцё ня ёсьць палітыкай; унутры гэнага жыцьця ня можа быць нешта падобнае да палітычных блёкаў, угодаў, двустаронных концэсыяў на ўсякія дыплёматычныя подступы. Каталікі прадстаўляюць сабе злучэньне цэркваў, як прыступленьне праваслаўных да адзінае праўдзівае каталіцкае царквы, а праваслаўныя — прыступленьне каталікоў да адзінае праўдзівае праваслаўнае царквы. Ужо сам гук слова: „злучэньне цэркваў" зьяўляецца подступам, хітрасьцю, якую абедзьве староны лёгка дасьледжваюць. Можа Ўладзімір Салаўёў быў адзінокім, запраўды шчырым староньнікам ідэі злучэньня цэркваў, калі ён пазнаў невыстарчальнасьць аднае і другое царквы ды магчымасьць узаемнага дапаўненьня. Толькі ж ён прыпісваў завялікае значэньне згодзе зацікаўленых царкоўных урадаў. У сутнасьці-ж злучэньне і еднасьць цэлага хрысьціянскага сьвету ня можа быць прадметам, справаю царкоўных урадаў, іхніх перагавораў ды ўгодаў, іхніх няшчырых уніяў, — гэткае злучэньне трэба асягнуць у глыбіні, а не на паверхні. Гэткую еднасьць можна асягнуць толькі ў містычнай сфэры, у сфэры духовага жыцьця і духовага досьведу, а не царкоўнай палітыкі.

Для асягненьня хрысьціянскае еднасьці трэба канечна зьменшыць значэньне царкоўнай палітыкі, каторая з давён даўных была крыніцай усякае сваркі ды калатні ў хрысьціянстве, зрэдукаваць яе a d m i n i m u m і безадклічна здушыць грахоўнае пасяганьне на ўладу. Для нас, ортодоксаў, дасца гэта лёгка зрабіць, бо царкоўная палітыка грала ў нас прыблізна невялікую ролю. Усякія гутаркі і перагаворы аб злучэньні цэркваў — гэта найгоршая мэтода да лучэньня хрысьціян Усходу і Захаду, — яна вядзе звычайна толькі да пабольшаньня нязгоды. Тут трэба рухацца не на паверхні, не гарызонтальна, не ў географічным прасторы толькі ў г л ы б і н ю і ў в ы ш ы н ю — простападна. Злучэньне цэркваў можна асягнуць у глыбіню і ў вышыню, дзе ўсе злучаны ў Хрысьце, а ніколі на гарызонтальнай плошчы, дзе пануюць сваркі і расколы. Як праваслаўны, так і каталік могуць кожны ў сваёй царкве, прытрымліваючыся свайго конфэсіянальнага тыпу, у спамеры высачыні і глыбіні прыйсьці да еднасьці і братэрства ды перамагчы разлад. Злучэньне цэркваў можа быць справаю толькі Сьв. Духа, а зьдзейсьненьне гэтае справы будзе цудам у гісторыі сьвету. Мы ня ў сілах выканаць гэнай задачы, бо мы паставілі палітыку замест духовасьці. Мы можам аднак ды мусім іншую задачу сабе паставіць; — з л у ч э н ь н е х р ы с ь ц і я н Ус-

ходу і Захаду, праваслаўных і каталікоў, дый на'т і пратэстантаў (для якіх гэнае пытаньне не прадстаўляе тае самае царкоўнае актуальнасьці) у духовай супольнасьці, узаемным пазнаньні ды поўным любові сужыцьці, адносінах. А гэта ня ёсьць пытаньнем фармальнасьці, толькі догматычным і царкоўна-кананічным пытаньнем духовага кірунку, духовага досьведу. Ня трэба старацца злучыць цэрквы, але трэба старацца злучыць хрысьціян, імкнуцца да ўзаемнага пазнаньня і ўзаемнай любові між хрысьціянамі ўсялякіх вызнаньняў ды да перамогі ўзаемнага ворагаваньня і сваркі. Варожасьць і ненавісьць між хрысьціянамі розных конфэсыяў ёсьць найганебнейшаю запраўднасьцю ў гісторыі сьвету. А з увагі на злучэньне, концэнтрацыю і нязвычайную актыўнасьць проціхрысьціянскіх сілаў у сьвеце — трэба гэну вось запраўднасьць назваць проста праступнаю. Антыхрыст забірае штораз большую часьць гэнага сьвету, а хрысьціяне жывуць у нязгодзе, сварцы і ненавісьці. А можа духаві Антыхрыста прыпадзе заслуга, што паможа еднасьці ў хрысьціянскім сьвеце?

Для праваслаўных зьмена і зьяднаньне і то наскрозь шчыра прадуманае зьяднаньне ёсьць лягчэйшым, як для каталікоў, бо праваслаўнай царкоўнай сьведамасьці ідэя вонкавага аўторытэту зусім чужая. Мы свабаднейшыя. Тымчасам прадстаўляюць сабе розьніцу між ортодоксыяй і каталіцтвам няверна, думаючы, што ортодоксыя бачыць вонкавы (зьнешні) царкоўны аўторытэт у саборы біскупаў, г. зн., што прадстаўляе сабе тых біскупаў, як арыстократычна ўконстытуованых, а каталіцызм бачыць цэлы царкоўны ауторытэт заступленым папаю рымскім, г. зн. прадстаўляючы сабе яго монархічным. У запраўднасьці-ж розьніца ляжыць у тым, што ортодоксыя зусім нэгуе ідэю вонкавага царкоўнага аўторытэту, як гэта выдатны расейскі тэолёг Хомякоў ясна выказаў. Паводле праваслаўнае сьведамасьці, ёсьць-жа царкоўны народ, дух экумэнічнасьці, уласьціваю ахаронаю праўды*).

Дзеля гэтага для праваслаўнае сьведамасьці царкоўнаарганізацыйнае пытаньне пра ўправу царквы ніколі не прадстаўляла сабою вялікае вагі, найважнейшым пытаньнем было пытаньне духовага досьведу, практыкі. Як для праваслаўных, так і для каталікоў ёсьць магчымым: маліцца за злучэньне хрысьціянскага сьвету, пазнаваць і дасьледжваць чужыя конфэсыі, перамагаць нязгоду і непрыязьнь, збольшваць прыхільнасьць і любоў да сябе, і ўступаць у экумэнічна-духова-брацкія адносіны да сябе, ведама-ж у Хрысьце. Праваслаўныя знаюць каталіцызм вонкава дрэнна; а ката-

*) Хомякоў, хаця і мае ўплыў на некаторых навейшых праваслаўных тэолёгаў, але сам ня ёсьць тэолёгам і дзеля гэтага не зьяўляецца аўторытэтным. Царкоўны народ ня можа быць уласьціваю ахаронаю праўды. (РЭД.)

ліцызм адплачваецца за гэта пагардаю ортодоксыі. Такой духовай атмосфэры ня можна далей цярпець. Мы мусім прызнацца, што нам цяжка прыходзіцца ўвайсьці ў зносіны з офіцыяльным дзяржаўствуючым каталіцызмам; для нас ёсьць чужою пануючая сыстэма каталіцкае тэолёгіі і ня менш чужая нам таксама і царкоўная палітыка Ватыкану. Але могуць нам падабацца каталіцкія сьвяты, каталіцкая містыка, краса каталіцкага культу і шчырая каталіцкая набожнасьць у народзе, мы можам таксама з годнасьцю прызнаць соцыяльнае значэньне каталіцызму.

Царства Божае надходзіць нявідочна; яно творыцца ў глыбіні. Кожны з нас можа супрацаваць пры тварэньні часьцін адзінага, хрысьціянскага духовага арганізму. Праваслаўны можа астацца праваслаўным*), а каталік — каталіком. Але з нутра свайго конфэсыяльнага тыпу можа ўсякі лучыць да еднасьці і да экумэнічнасьці, як толькі пачне разумець экумэнічнасьць унутранна, духова, а ня вонкава, паарганізатарску**).

Якраз прыйшоў ужо час да вялікага злучэньня хрысьціянства. Палажэньне хрысьціянства ў сьвеце рашуча зьмянілася. Яно перастала ўжо быць знешняй пануючай сілай. Проці хрысьціянства пачаліся новыя прасьледаваньні. А гістарычны рух не выражаецца барацьбою каталікоў з пратэстантамі, або праваслаўных з каталікамі, ані тым, каб паганцаў падчыніць хрысьціянству, а толькі — барацьбою хрысьціянскіх сілаў проці антыхрысьціянскіх, проці Антыхрыста. Для хрысьціянскага сьвету на Захадзе важным ёсьць пытаньне, як перамагчы гістарычны пратэст, зьвязаны з рэформацыяй, а адказнасьць за яго ня можна сьпіхаць на самых толькі пратэстантаў, якраз так, як важным ёсьць пытаньне для расейскага сьвету, як перамагчы гістарычны „раскол“, за які годзі вінаваціць самых толькі „стараабрадцаў“. Вось-жа ёсьць і ўнутраныя справы хрысьціянства Захаду і хрысьціянства Ўсходу. Але і гэныя духовыя сьветы мусіцімуць пазнаць сябе бліжэй і злучыцца, праўда, не палітычна, толькі духова. Але да сяньня бадай нічога ня зроблена ў кірунку гэнага духова аб'яднаньня. Праваслаўе вядзе замкнёнае ў сабе ізоляванае існаваньне. Награмадзіліся ў ім магутныя духовыя багацьці, якія яшчэ не аб'явіліся сьвету. А гэныя духовыя багацьці вельмі прыдадуцца Заходняму сьвету. Аб расейскім рэлігійным думаньні, у якім награмадзілася шмат творчых рэлігійных ідэяў, на Захадзе бадай ня маюць ніякага паняцьця. А ў гэным галоўная наша віна. Мы быццам не разумеем, што прыйшоў ужо час для ортодоксыі, каб выступіла з гэнага замкнёнага

*) Небясьпечны рэлігійны індыфэрэнтызм; ня ўсе рэлігіі аднолькава праўдзівыя, бо адну толькі заснаваў Хрыстос царкву.

**) Не нэгуючы патрэбы ўнутранай еднасьці, патрэбна таксама вонкавая еднасьць для вонкавага жыцьця. (РЭД.)

кола. Нашыя духовыя сілы ня вычарпаліся ў нязвычайна вялікай гістарычнай дзейнасьці і арганізованасьці, а ў расейскім народзе ёсьць вялікая магчымасьць паклікаць да жыцьця хрысьціянскую абнову, але ёсьць і ня меншая магчымасьць і ў духовасьці Антыхрыста знайсьці спадобу. Мы мусім аднак перамагчы ў сабе гістарычную няпрыязнасьць і недаверчывасьць да каталіцызму, каторых падсычала заборчая палітыка каталіцкае царквы. Аснаўною ўмоваю для супольнасьці і злучэньня праваслаўных і каталікоў ёсьць: пакончыць з заборчаю палітыкаю. Каталікі павінны перастаць лічыць расейскі народ за прадмет, які мусіць быць навернены на праўдзівую веру; яны павінны лічыць яго за рэлігійны об'ект, яны павінны сябе асьцярожна вясьці адносна ўнутранага духовага жыцьця расейскага народу і адносна пазытыўных духовых багацтваў ортодоксыі. Найбольшаю перашкодаю на дарозе да духовае супольнасьці і злучэньня праваслаўных і каталікоў ёсьць якраз устанаўленьне адносінаў да праваслаўных выключна з становішча *навярненьня на каталіцызм*. Самалюбства, як праваслаўных, так і каталікоў трэба перамагчы. Гэныя два сьветы ня маюць цэлае паўнаты для сябе, дык патрабуюць дапаўненьня*). Ня трэбе праводзіць злучэньня за ўсякую цану ды пры тым паслугоўвацца якімі-небудзь сярэднікамі. Вымушанае вонкавае павярхоўнае злучэньне, якое не адпавядае ўнутранай духовай еднасьці, будзе вельмі малой вартасьці. Да гэнага трэба свабоднага і шчырага паважаньня бяз усякай зьнявэры і бяз ніякага подступу.

Я яшчэ раз паўтараю: Дух Сьвяты злучыць цэрквы, як прыдзе на гэта назначаная Божым Правідам пара. Толькі ж хрысьціянскае чалавецтва мусіць да гэтага падрыхтаваць грунт ды вытварыць спрыяючую, псыхічную атмасфэру. Такім духовым грунтам, такою псыхічнаю атмасфэрай можа быць толькі духовае злучэньне ў любові, узаемным пазнаньні сябе, малітве аб гэта самае, ды братнім сужыцьці ў Хрысьце. Можа злучэньне царквы і экумэнічнасьць хрысьціянства зробіцца відочным і ўпоўні законна актуалізаваным аж пры канцы сьвету, калі настане апокаліптычная эпоха, як гэта думае Уладзімір Салаўёў (у сваім „Расказе пра Антыхрыста“); аднак душою аб гэтым старацца і духова да гэтага рыхтавацца — гэта наш сьвяты абавязак ува ўсякай часіне нашага жыцьця.

З нямецкага пералажыў

*а. П. Татарыновіч*

---

*) Хрыстова царква не распалася, дапаўненьне ня трэба лічыць за істотны варунак істнаваньня. Не самалюбства, а глыбокае перакананьне аб праўдзівасьці свае царквы і любоў бліжняга змушае працаваць да прывядзеньня нязлучаных да злучэньня з Адзінай Хрыстовай Царквой. (РЭД.)

В. А.

# Унія на Палесьсі.

*Ахвярую Вельмі Паважанаму Айцу Вячаславу Аношку на памятку пяцілецьця прыходу ў Альпені.*

Здарылася мне нядаўна пабываць на Палесьсі. Калісьці былі тут непраходныя лясы, пушчы; пасьля асталіся пасекі, а цяпер — само голае Палесьсе: балоты і балоты. Ёсьць і добрая зямля на вышэйшых месцах. Тут жывуць адвечныя жыхары, Паляшукі і Пінчукі; яны нашыя браты і гавораць панашаму, толькі крышку больш пахіляючы на галосную „о“. Людзі тут згуртаваны ў большыя вёскі, каторыя часам даходзяць да сту, двухсот і болей хат. Што да веры — тут блізка ўсе праваслаўныя. Але толькі з назовы „праваслаўныя“, бо запраўды цемната рэлігійная тут пануе страшэнна. Я сам быў у адной вёсцы пасьля Каляд: ці паверыце? — з вёскі, што мае паўтараста хат, ані адзін ня быў у царкве праз усе Каляды! А да царквы вёрст шэсьць.

За такое апушчэньне цяжка адкажуць людзі перад Богам, каторы нас стварыў і выкупіў, і можа яшчэ цяжэй адкажа праваслаўнае духавенства, каторае гэтым народам апякуецца. Ня дзіва, што ў такой цемры жыруюць розныя нездаровыя элемэнты, як сэкты баптыстаў і мэтодыстаў, а навет палітычныя душагубцы-камуністы. Народ наагул добры, але цёмны і запушчаны.

Вось-жа Каталіцкая Царква, каторая мае праўду найчысьцейшую, ня можа глядзець бясчынна на згубу душ людзкіх, адкупленых крывёю Збаўцы. Найвышэйшы Пастыр, Сусьветны Архірэй, Папа Рымскі, пасылае на Палесьсе праўдзівых каталіцкіх сьвяшчэньнікаў, людзей з гарачым сэрцам, адданых Богу і кажа ім: „Ідзеце на Палесьсе! Навучайце і прасьвячайце там народ просты і цёмны!“

Каталіцкі Архірэй у Пінску, Япіскап, Жыгімонт Лазінскі патварыў Уніяцкія прыходы і прыслаў сюды Уніяцкіх сьвяшчэньнікаў. Пачалася апостальская праца.

Праасьвяшчэнны Архірэй Мікалай Чарнэцкі, прывёз ад Рымскага Папы багаслаўленьне ўсім Уніяцкім сьвяшчэньнікам і міранам. Сам Рымскі Папа, Піус XI, моліцца за згоду, за лучнасьць і заклікае ўсіх праваслаўных „Да злучэньня“. Гэтае **злучэньне** называецца Уніяй. Некаторыя людзі баяцца гэтага слова „Унія“, як-бы чагосьці страшнага. Але яшчэ старычкі памятуюць, як калісьці тут была Унія, г. значыць Каталіцкая вера ўва Ўсходнім Абрадзе. Пасьля яе загубілі маскоўскія цары — сілай, гвалтам і ашуканствам. Цяпер Айцец сьвяты, Папа Рымскі, як Айцец усяго Хрысьціянства, заклікае да павароту на лона праўдзівай Царквы; каб споўніліся словы Хрыста Спаса і сталася „адна аўчарня пад адным Пастырам“.

Альпенскі прыход сьвяткаваў нядаўна пяцілецьце свайго павароту на лона Хрыстовай Царквы. Я тут жадаў-бы хоць частково прылажыцца да супольнай радасьці і ахвярую Дарагім Альпенцам гэтую маленькую памятку. Гарой Альпень! Няхай жыве наш Уладыка, Мікалай! Няхай жыве Сьвятая Сусьветная Праўдзівая Каталіцкая Царква! Няхай жыве Сусьветны Архірэй, Піус XI, Папа Рымскі!

## I. НА ПАЛЕСЬСІ.

На Палесьсі сьвятым, у куточкі глухім,
Дзе балоты, лугі, лясы, пушчы,
Ля Давідгарадка ляжыць вёска така,
Людзі там ў грамадзе, ў адной гушчы.

Над Гарынем ракой, там у вёсцы у той,
Што Альпенем адвеку завецца,
Важны справы пайшлі ў нашай роднай зямлі;
Ишчэ важнейшы, чым можа здаецца!

А як хочаце знаць, раскажу: Гадоў пяць
Перад гэтым быў край тут нязнаны;
А тутэйшы народ праз папоў пад той год
Быў зусім, так сказаць, занядбаны.

Хоць лічылі людзей сьвятой паствай сваей,
Ды не пасьвілі іх ані трошкі:
Толькі стрыгчы авец, поп сьпяшыў, як купец,
І ахвяры зьбіраў аж да крошкі.

Вось авечкі бляяць: сталі просьбы пісаць,
Пасылаюць і просяць і плачуць:
Каб на месца „купца", біскуп даў ім айца —
Іншай рады ніякай ня бачаць.

Біскуп ў гэтай бядзе акуляры кладзе
І сьпісок прад сабой раскладае;
А хоць бацюшкаў шмат, ды айцоў недахват:
Доўга, доўга такога шукае.

Аж знайшоў малайца, вось такога айца,
Што слуга быў праўдзівы Хрыстовы;
І на Божы прызыў яму крыж узлажыў —
Той айцец быў да працы гатовы.

Ўзяў сьвяшчэньнік размах ўсяму пеклу на страх,
Едзе скоранька, сьпешна, ахвоча;
А на простым вазе важны пляны вязе,
Бо людзям прыхіліць неба хоча.

Быў ён кожнаму рад, бо ён родны, наш брат;
Кроў з крыві, косьць з касьцей наша родна;
Так прышоўся да нас—брат да брата якраз—
І ствэрылась сямейка народна.

Быў адважны на зьдзіў: шчыра так гаварыў
І даступна для кожнай бабулі,
Што Альпенцы усе, дзеці тож пакрысе,
Разважалі, як толькі пачулі.

Так вось добра зярнё, хоць-бы толькі адно,
Як у чуткае сэрца запала,
Зараз там узышло, далей-болей расло,
Зелянела, цьвіло, насьпявала.

З уніяцкіх клапот, хоць малы умалот,
Рад і тому айцец даражэнькі:
Праз гадоў гэтых пяць было трэба зьбіраць
Кожны дзень гэты крошкі маленькі.

## II. ЦІ ПАТРЭБА?

Ды аб што тут ідзе? хто вайну тут вядзе?
Ці патрэбна змаганьне такое?
Мо дарэмны заход, бо тут сонны народ —
І ці Унія — дзела сьвятое?

Госпад з неба, Хрыстос адну веру прынёс
І за праўду ён кроў праліваe:
Ён за праўду памёр—за братоў, за сясьцёр;
Крыжам неба для нас адчыняе.

Сам да неба йдучы, пакідае ключы —
Пётр Апостал тым ключнікам будзе:
Пётр адчыне для нас, калі прыйдзе той час;
Гэтак могуць спасьціся ўсе людзі.

Пётр пакорна прыняў, ключы Божыя ўзяў—
Гэта воля Хрыста і тэстамант:
„Кіфа-Пётр, Ёнін сын, ты у Цэркве адзін —
Ты скала, галава і фундамант".

„А Я Цэркву сваю на табе засную:
Яе брамы пякельны ня змогуць;
І ты будзеш вязаць: адчыняць, зачыняць,
І Апосталы так-жа памогуць".

„Бо ты Пастыр усіх, тых авечак маіх:
Ты пасі, сьцеражы іх, як трэба!
Мае праўды вучы, і карай і лячы:
Я цябе ўспамагаць буду з неба".

Пётр быў добры айцец і сьцярог тых авец,
Што Хрыстос яму быў даручыўшы:
Працаваў-гараваў, аж на крыжы сканаў,
Толькі ў гробе сырым адпачыўшы.

А ключы перайшлі ад Пятра на зямлі
Да Наступніка ў Рыме Пятрова;
Ён аўчарні усей — адзін Пастыр людзей:
Так спаўняецца воля Хрыстова.

Вось у Рыме на той, на сталіцы сьвятой
Адзінаццаты Пій засядае:
Цэлы сьвет да яго, як да бацькі свайго,
У патрэбах сваіх прыбягае.

Вечны, слаўны той Рым, абычаем старым,
Ён скала, Хрысьціянства апора;
Там Наступнік Пятроў дзевятнаццаць вякоў
Вучыць, Іменем Божым гавора.

Беларусы, браты! Там, дзе Пётра сьвяты,
Там праўдзіва Хрыстова аўчарня.
А дзе Пётры няма, там і цемра і цьма;
Людзі бедныя гінуць там марна.

Дык адновім ізноў, як за нашых дзядоў,
Уніяцку праўдзівую Цэркву:
Пойдзем ўсе за Пятром, іншым сьлед пературом,
На пачатак з сябе зложым жэртву!

## III. АЛЬПЕНЬ.

З пакаленьня ў пакаленьні
На Палесьсі ў Альпені
Жывуць людзі рэзвы, бойкі,
Да работы вельмі стойкі;
Сьцерагуць абычай даўны.
Ўсе дагэтуль праваслаўны.
Яны — шляхта па паперах,
Па крыві і па манерах.
Папы вёску абміналі;
Толькі часам заяжджалі
З торбай, з саквай, ці з мяхамі,
Каб ахвяры браць з грахамі.
Вядучы людзей да неба,
Пры тым лаялі, як трэба.
Людзі цёмны, небаракі,
Ня дай, Божа! горш табакі:
Дзяды, бабы і дзяўчаты,
Хлопцы, дзеці — цэлы хаты
Былі з Богам не знаёмы:
Толькі сваркі і праклёны
Тут вяльможна панавалі.
Людзі толькі тое знали,
Што жылі ў вялікім п'янстве,
Ў недаверстве і паганстве.

Беларуская натура,
Хоць ціхая, хоць панура;
Беларус, як кажуць, скрыты,
Бо быў многа крыўджан, біты —
Хоць і пацераў ня знае,
Аднак Бога прачувае.
Хоць і любіць часам спорыць,
Многа ліха нагаворыць;
Хоць душа заскарупее,
Аднак іскра пламянее,
Што на дне у сэрцы скрыта,
Хоць зусім была забыта.
Усе добра знаем гэта:
Часам простая кабета,
Калі чыста сэрца мае,
Так разумна разв226жае
І так шчыра любіць Бога, —
Хоць вучоная нямнога, —
Што вышэй у небе стане
За вучоных „мосьці-пане“.
У Альпені тож — дзяўчаткі,
Добры сёстры, жонкі, маткі,
Як сьляза, душою чысты,
Сэрцам добрым прамяністы,
Сабой красны і прыгожы, —
Як пачулі словы Божы,
Запаліліс вельмі скора
Да малітвы і да хору,
Да царквы, да набажэнства,
Пакідалі ўсё блазенства.
Вось Альпень заварушыўся;
Вельмі скора ажывіўся:
Глядзіш з боку і здаецца,
Скуль усё у іх бярэцца?
Ёсьць аркестра, хор, як трэба —
Прыхіляюць к сабе неба:
Служыць Богу кожна хата —
Гэтым рада, чым багата.
Гіне п'янства і блюзьнерства,
Пашыраецца братэрства:
Дзелам, словам, згодай, ладам
Альпень стаў для ўсіх прыкладам.
Наш Альпень — шчасьліва вёска —
Тут пануе ласка Боска!
Наш сьвяшчэньнік дзе блукаўся,
У Альпень калі папаўся,
Дык вучыць пачаў аб Богу:
К небу простую дарогу

Стаў паказываць Альпенцам.
Сам набожны, з добрым сэрцам,
У навуцы так упарты,
Што малыя былі жарты!
Як каго не праканае,
Разоў сорак паўтарае —
Тое самае тлумачыць:
І што кожна праўда значыць,
І як жыць і як маліцца,
Як з суседзямі дружыцца.
Часам сьлёзна і набожна,
Часам сьмешна і пацешна —
То глыбокаю навукай,
А то жартам, (ня прынукай!) —
Туды ў хату прыбягае,
Адных просе, іншых лае...
Што і сілы больш ня стала,
(Пяць гадоў — ці гэта мала?!),
З ім змагацца і спрачацца...
Што-ж ты зробіш, трэба здацца!
Людзі добры, ды лянівы,
Іншы крышку баязьлівы:
Хочуць ў Унію пісацца,
Ды... яшчэ, яшчэ баяцца.

## IV. СПРЭЧКІ І ЗГОДА.

На сяле між сабой, ці таўпой, грамадой,
Вядуць спрэчкі мужчыны да сьмерці;
Бабы спорылі тож, за мужчын яшчэ горш,
Аж гатовы былі вочы дзерці.

Муж да жонкі: „Глядзі! ты да іх ня ідзі,
Пачакай ты яшчэ з новай верай!
Бо то кажуць у нас: „Як падпішашся раз,
Дык ня вырубіш посьле сякерай!“

Яна кажа: „Дурны! Ці-ж мы толькі адны?
Там і гэты і той запісаўся“.
А ён кажа: „Заб'ю! спалю хату сваю!“...
І грaзіў, і бажыўся, і кляўся.

Плач і жаласьць і грэх;а тут злосьць,а там сьмех,
Падзяліліся, пабіліся на двое:
Ў гэтай хаце браты; там суседзі, сваты —
І паўстала тут ліха такое.

Там сястру лаяў брат, а хто быў вінават,
Салямон-бы ня мог разабраці.
„Ты такі, ты сякі!“ На плячох сінякі
Чуць ня ў кожнай здараліся хаце.

Уніяты аднак (гэта добры быў знак!)
У тых спрэчках былі спакайнейшы;
Так Хрыстос навучаў і для нас прыклад даў:
„Я з усіх, — Ён казаў, — пакарнейшы!“

Кожны тут уніят вельмі, вельмі быў рад,
Як праціўнікі к ім прылучаліс:
І маліліс за іх, як за родных сваіх,
Каб у веры сьвятой аб'ядналіс.

Ды заўзятая злосьць, як-бы кінута косьць,
Навет родных братоў разьдзяляе:
За зямелькі кусок, ці за хатні куток
Іншы праўды сьвятой ня прыймае.

Мае мілы браты! Наш Спасіцель сьвяты
Вучыў ясна аб гэтым калісьці:
„Мяне хочаш любіць, у раі са Мной жыць—
Ня шукай сваей собскай карысьці!“

„Я табе ёсьць важней за бацькоў, за дзяцей,
Ці за жонку, сястру, ці за брата;
Я твой Бог, Я Гасподзь! да Мяне ты прыходзь,
А душа твая будзе багата.

„А хто будзе мяшаць—да Мяне ня пушчаць—
Кінь яго, хоць ён твой найбліжэйшы!
Лепей будзь сіратой, бо Я буду з табой,
Я твой Бог, Я твой друг наймілейшы!“

Пасьля буры такой надыходзіць спакой —
Стала Унія тут будавацца:
Ў рэчцы пройдзе вада, праміне́цца бяда,
Будзе вера глыбей грунтавацца.

## V. ВЯЛІКАЯ ЕКТЭНІЯ.

Ўвесь сабраны народ у Гасподніх варот
Разам моліцца Спасу і Богу:
„Божа, дай супакой са сталіцы сьвятой,
Пакажы нам да неба дарогу!“

Прыдзі, Спасе, прыдзі! ўсіх людзей пагадзі,
Няхай мір твой на сьвет разьліецца:
А у Цэркве сьвятой, Паусюднай, адной,
Няхай цэлая людзкасьць зьбярэцца.

Сваей Цэрквай ўладзей і спасі тых людзей,
Што тут з верай і страхам прыходзяць;
Божа, ўсіх ўспамагай, сваю помач нам дай—
Злыя моцы няхай нам ня шкодзяць!

Асьвяці, ўспамажы; верны пуць пакажы
Найвышэйшаму ўсіх Архірэю!
З духавенствам усім, з верным людам тваім;
Веру ў нас запалі і надзею.

Божа, ласку нам дай — сьцеражы гэты край;
Апякуйся Уладай, Дзяржавай!
Божа, усіх рассудзі і братоў пагадзі —
Не жалей нам апекі ласкавай.

Гэту вёску усю пад апеку сваю
Прыймі, Божа, бо Ты міласэрны!
Усе сёлы і Край; Божа, ўсіх ўспамагай,
Асабліва народ Табе верны.

Накармі Родны Край, прыадзень, ласку дай,
Дай памыснасьць у полі, у хаце!
У бядзе памажы, ад грахоў сьцеражы,
Дай духовае шчасьце, багацьце.

А зямлі загадай, каб дала ураджай
І настрой адпаведну пагоду;
Каб ні пошасьць, ні град, хоць і хто вінават,
Ні вайна — ня любілі народу.

Ці каму што баліць, ці ў вязьніцы цярпіць,
Хто галодны, хто бедны, ці хворы —
Іхны просьбы пачуй! Божа, іх паратуй —
Ці хто гіне ў дарозе, ці ў моры.

Ты для ўдоў — апякун, для сіротак—пястун,
Ты пацеха, падмога ў патрэбе;
Гневы, злосьць пранясі і ад крыўды спасі,
Дай прыпынішча вечнае ў небе!

Як спадзе што на нас, заступі у той час,
І спасі сваей ласкай сьвятою;
Ты — Айцец, пажалей нас, слабенькіх дзяцей,
Дык мы будзем бясьпечны з Табою.

Цяпер разам усіх прызываем Сьвятых,
Матку Божу, з усіх найчысьцейшу;
Аддаём мы сябе, Хрысьце, молім Цябе:
Дай нам ласку сваю найсьвяцейшу!

## VI. ГУТАРКА АБ УНІІ.

*(Праўдзівае здарэньне дня 26. XII. 1931 году — на другі дзень Усходніх Каляд).*

**АСОБЫ: Уніяцкі сьвяшчэньнік,**
**Праваслаўны ероманах**
**і Лацінскі ксёндз.**

Уніят да Манаха.
Ойча, досыць нам сварыцца!
Трэба нам усім злучыцца.
Запраўды, нам вельмі стыдна,
Сьвету цэламу абідна,
Што між намі жыве звада —
Толькі пекла з таго рада.
Як браты мы дружна станем
І дзяліцца перастанем:
Пойдзем праціў камуністаў,
Праціў сэктаў і баптыстаў —
Адзін пастыр, адно стада —
Будзе неба з таго рада.
Манах. Што дарэмна тут казаці?
Праўду трудна даказаці:
Вярхі нашыя калісьці
Для свае, відаць, карысьці
Народ просты ачмуцілі —
Недзе праўду закруцілі.
Ты шукай, дзе хочаш зайдзеш,
А ці праўду тую знайдзеш?
Патрыярхі гэта нашы
Наварылі горкай кашы:
І ваш разам Рымскі Папа!
Вось для веры прыйшла кляпа:
Няхай кожны сам адмерыць—
Як патрапіць, няхай верыць.
Ксёндз. Што, айцец, вы такі горкі?
Манах. Ня люблю такой гаворкі;
Не хачу той справы рухаць
І ня буду болей слухаць!
Уніят. Мы вас, Ойча, ня змушаем:
Пасуседзку разважаем.
Аднак справа вельмі важна,
Дык пачнём судзіць адважна:
Мы паслухаць вас гатовы.
Хоць і востры вашы словы.
Пачынайма ў Імя Божа!
Ксёндз. Ды няхай нам Бог паможа!

Уніят. Што вы, Ойча, перш сказалі?
Мне здаецца — жартавалі?
Яшчэ вера не прапала!
Манах. Што, грахоў на сьвеце мала?
Перайдзеце сёлы, хаты —
Ўсе тут грэшны, вінаваты!
Людзі разам і асобны
Да чарцей усе падобны:
Ад дзяка да архірэя —
Гіне вера і надзея!
Перад Богам людзі танны —
Ўсе мы грэшны, акаянны!
Ксёндз. Ойча, Ойча! на сумленьне!
Ёсьць у Вас незразуменьне.
Манах. Ўсе нягодны, ўсе фальшывы!
Уніят. Але Бог аднак цярплівы.
Сваёй мудрасьцяй сьвятою
Сваю Цэркву так устроіў,
Што ёй новы даў тэстамант:
Палажыў такі фундамант,
Што жыць будзе векі-вечны,
А мы можам быць бясьпечны.
Хрыстос Госпад заручыўся,
Прысягнуў і пабажыўся:
„Я.—казаў Ён,—тое спраўлю,
Сваю Цэркву так пастаўлю,
Што злы дух яе ня зможа!“
Яго слова — слова Божа.
Людзі, праўда, саграшылі,
Многа зла тут натварылі,
Але Госпад праўду мае —
Сваю Цэркву падтрымае.
Ксёндз. І у гэтым няма дзіва:
Адна вера ёсьць праўдзіва!
Манах. Кожны з вас сваё гародзіць,
А ці так яно выходзіць?
Гэта толькі словы, словы!
Тут ня нашыя галовы:
Вярхі гэта натварылі,
Што і праўду загубілі.
Патрыярхі вінаваты:
Яны мудры і заўзяты,
Дык няхай цяпер, як знаюць,
Праўды згубленай шукаюць;
Што папсулі, хай гародзяць:
Няхай Унію заводзяць.
Мы нічога тут ня знаем —
Так жывём і паміраем.

Як Вярхі нам гэта скажуць,
Ці там Унію завяжуць,
Дык і мы пайсьці гатовы
Да той іхнай пастановы.

Уніят. Патрыярхі заблудзілі:
Сваю Цэркву адлучылі,
Не паслухалі Папежа.
Так Хрыстовая адзежа
На дзьве часьці разарвана.
І дагэтуль тая рана
Не загоена трывае —
Крывёй Божай аплывае.
Дык зрабеце з сябе жэртву:
Пойдзем разам ў нашу Цэркву!
Сьвяту Унію завяжам,
Праўду чысту Вам пакажам.

Манах. І ваш папа з той-жа крамы:
Ён нягоднік такі самы!

Ксёндз. Што я чую? дзіва, дзіва!
Гэта ўсё несправядліва:
А Вам Папа што такое,
Як, калі зрабіў благое?

Манах. Папа злосьці робіць многа,
Але мне?... дык мне—нічога!

Уніят. Перад Богам людзі роўны:
Найвышэйшы тож духоўны
За грахі свае адкажа.
Справядлівасьць Бог пакажа.
Бог даў розум чалавеку,
І нам даў кусочак веку,
Каб Яго мы тут пазналі,
Яго волю выпаўнялі.
Хто ня верыць, грэшыць, блудзіць,
Дык за гэта Бог асудзіць.
Мы вось з Вамі аб тым спорым,
Шчыра, ясна ўсё гаворым,
Што Вам трэба асабіста
Пашукаць, дзе праўда чыста.
Чым грашылі Патрыярхі,
Ці Папежы, ці манархі,
Гэта іхны былі справы —
Будзе там ім Бог ласкавы.
Але мы, вось тут, мы самі,
Ці ня блудзім мы часамі?
Як хто сьведама заблудзіць,
Цяжка Бог яго асудзіць!
Мусім праўды тут шукаці
І друг другу памагаці;

Шукаць будзем, праўду знайдзем
І да неба разам зайдзем.
  Дык ня можна так казаці,
На другіх перакладаці:
„Той такі, там вінаваты,
Ён там хітры, злы, заўзяты —
Мая хата стаіць з краю:
Я нічога тут ня знаю!“...
Бог дае нам ўласны вочы,
Каб сьвяцілі ўдзень і ўночы:
Даў Бог рукі, розум, волю,
Каб кавалі сваю долю —
Зараблялі кусок хлеба,
Ды імкнуліся да неба.
Манах. Ўсюды Папа ваш мяшае:
Ён бунтуе, нападае...
І да веры старадаўнай,
Нашай рускай, праваслаўнай,
Прычапіўся бесканечна.
  І вы тож прысталі, вечна
З гэтай вашаю навукай —
Так сказаць, як-бы з прынукай,
Назаляеце бяз меры.
А што-ж з вашай рымскай веры?
  Папа—пышны, Папа—горды,
А для нас ён вельмі цьвёрды:
Нібыто аб нас хлапоча,
А па праўдзе згубіць хоча.
Уніят. А, ксёндз, гэты словы чуе?
Ксёндз. Іх тут ненавісьць дыхтуе.
Калі гэтак, кіньце спорыць!
Няхай Бог тут прагаворыць:
Калі хочам мы злучыцца,
Пачынайма лепш маліцца.
Бо малітва, (тож ня дзіва!)
Зьмягчыць сэрца, як аліва.
  Папа тож напамінае;
Сам маліцца пачынае,
Як пісалася ў газэце:
Загадаў, каб ў цэлым сьвеце
Ўсе малілісь за Расею.
Мае крэпкую надзею,
Што малітвы Бог пачуе
І Расею паратуе.
Манах. Што мне будзеце тлумачыць?
Знаю, знаю, што то значыць!
Вы разумны, вы вучоны;
Вы талкуеце з амбоны,

А народ нам збунтавалі.
Як на моры тыя хвалі,
Так народ тут неспакойны,
А такі быў багабойны!...

Уніят. Эй-жа, Ойча, Вы заўзяты!
Чым Вам дрэнны Уніяты?
І Папежа надарэмна
Вы так зганьбілі нікчэмна:
Гэта ўсё несправядліва
І нягодна і фальшыва!
Вы сказалі, што... „спакойна
Тут народ жыў багабойна...“
Так то так... а тут калісьці
Вашы брали досьць карысьці:
Авец пасьвіць не хацелі,
Але стрыгчы вы умелі!
Я й сягоньня езьдзіў ў вёску:
Быў тут блізка—у Харомску.
Паўтараста хат, тым знакам,
(Можа навет будзе з гакам?)—
Жывуць людзі, як дзікія:
І старыя і малыя
Цэла сьвята, ўсе Каляды,
Прасядзелі ў хаце, гады.
Ня то хворы, а здаровы
Ляжаць ў хаце так, як дровы.
Змарнаваўшы ноч на скокі,
Пасьля тыя-ж абібокі
Дзень на печы каратаюць.
Навет пацераў ня знаюць.
Тож ня дзіва, што баптысты,
Розны сэкты, камуністы
Расплянілісь, як вужакі.
Пасьля брэшуць, як сабакі,
Проціў веры і спасеньня.
Гэта чортава насеньне
Жыве з вашага ляніўства
І з нядбальства, русафільства...
Вам тут Унія ня шкодзіць,
Калі чысту праўду ўводзіць.
Мы народ свой добра знаем,
Вось ідзём і навучаем,
З сваей песьняй, з словам родным,
З сваім духам тож народным.
Русафілы вы старыя!
Вы становіцесь чужыя —
Ваша песьня ўжо адпета,
Вам пара прыпомніць гэта!

Годзі Вам тут аглядацца
На Расею! з нас сьмяяцца,
З нашай мовы роднай, мілай.
А Масква нам тхне магілай —
Беларускаму імкненьню,
Маладому адраджэньню.
Хоць за голасам прыроды
Ідуць сьмела ўсе народы.
Вы, духоўны праваслаўны,
Захавалі звычай даўны:
Каб вось спосабам даўнейшым
Біць паклоны прад сільнейшым;
Цалаваць чужыя клямкі
І на лёдзе строіць замкі.
Вы ўступаеце прад мусам —
Хто з вас стаўся Беларусам?
Хто даў месца свайму слову,
Хто ўвёў ў Цэркву нашу мову?...
Манах. Вы Альпень пабунтавалі...
Уніят. Я? А вы таго ня знялі
І ня чулі, што Ўніяты
Богам, верaю заняты,
І малітвай, набажэнствам,
Не займаюцца блазенствам?
Хвалім Бога, так, як трэба,
І шукаем толькі неба.
Вас братамі лічым так-жа,
А вы крывіцесь аднак-жа.
Вас ў малітвах ўспамінаем
І дабра для вас жадаем.
А да Уніі, да згоды
Прыйдуць, дасьць Бог, ўсе народы!
Адзін Пастыр, адно стада...
Манах. А нам Уніі ня нада!
Уніят. Ну, як хочаце, рабеце.
Ксёндз. А яшчэ вось мне скажэце,
Чым Вам страшна аб'яднаньне?
Манах. *Уже поздно. До свiданья!*

## VII. ГОСЬЦЬ З РЫМУ.

На Палесьсі сьвятым, у куточку глухім,
Дужа радасны Госьць быў чаканы:
Мікалай Архірэй, праз Айца да дзяцей,
Візытатар быў з Рыму пасланы.

„Едзь-жа, едзь, чым скарэй, мілы наш Архірэй!
Дзеці родныя вельмі чакаюць“.
Дзён і ночанькаў пяць людзі нашы ня сьпяць:
Строяць брамы, Гасьця спатыкаюць.

Вот сабраўся народ, на чале крэстны ход —
Акалічна усё духавенства;
Як-бы хвалі плывуць, так ідуць ды ідуць —
Спатыкаюць Яго Прасьвяшчэнства.

У Палескім куце ўся прырода цьвіце
І лугі прад Гасьцём расьцьвітаюць:
Птушкі рэзва пяюць, у паветры снуюць —
Як умеюць, Гасьця так вітаюць.

Народ цэлы пяе, сэрца радасьцяй б'е,
Голас нейкі ў грудзёх замірае;
А Ўладыка да ўсіх, да чужых, да сваіх,
Як Айцец да дзяцей, прамаўляе.

Як прамовіць хацеў, на усіх паглядзеў.
Пасьля рукі злажыў, як патрэба:
А тагды як пачаў, доўга так навучаў,
Голас плыў далей, далей, да неба.

Ён прысланы знарок, так як Божы Прарок,
Вучыў сьмела, а навет сварыўся:
За грахі тож карыў, ад душы гаварыў,
Аж на твары увесь запаліўся.

Народ жаль як пачуў, як-бы вецер дыхнуў,
Так, як збожжа, схіляе галовы:
Толькі рукі шчапіў, твар сьлязою скрапіў
І пакутаваць быў ўжо гатовы.

Дзеці скачуць, пяюць; званы радасна б'юць,
Тут сабралась аўчарня Хрыстова;
Праваслаўны також тут сабраліся тож,
Каб пачуць архірэйскае слова.

Як калісьці Хрыстос людзям радасьць прынёс
І братамі людзей называе:
Так Ўладыка для ўсіх, як для родных сваіх,
Сваё сэрца, душу адчыняе.

Кажа: „Дзеці! для вас прыйшоў-выбіў той нас,
Каб злучыцца у лодцы Пятровай;
Бо з Пятром плывучы, праз Пятровы ключы,
Вы дазнаеце ласкі Хрыстовай“.

„Так жадае Хрыстос, гэта воля нябёс —
Аднавіць трэба праўду старую:
Дык пазнайце ізноў, як за нашых дзядоў,
Каталіцкую Цэркву сьвятую,

## Малітва.

Усей душою сваей, Божа ласкі Тваей
Шчыра просім, пачуй і памілуй!
Ўзносім рукі к Табе, тройчы просім Цябе,
Будзь пацехай, надзеяй і сілай!

Божа нашых айцоў, будзь заўсёды гатоў,
Каб пачуць і нам даць, чаго просім:
Ты ўсё дзержыш ў руках--сваю міласьць і страх,
Шчыры просьбы к Табе мы прыносім.

Ты любові Завет даў на гэты ўвесь сьвет:
Многа даў, яшчэ болей Ты маеш.
Ты нам міласьць даруй, нашы просьбы пачуй!
Ты малітвы пакорны прыймаеш.

За Ўладыку усіх Архірэяў тваіх
Яшчэ молімся шчыра і просім:
За спасеньне Яго, так-жа міру ўсяго
Гэты дары, малітвы прыносім.

---

Яшчэ, яшчэ молімся Богу
За тых, што наш храм збудавалі,
За тых, што на суд Божы сталі
І церпяць па сьмерці трывогу.

За тых, што Царкве памагаюць,
Працуюць, пяюць і прыходзяць,
І дзетак з сабою прыводзяць,
І ласкі ад Бога жадаюць.

Мы знаем, што Ты міласьцівы
І любіш ад веку да веку,
І ласку даеш чалавеку,
І творыш вялікія дзівы.
Дай дзень нам сьвяты, дасканалы,
Бязгрэшны, заўсёды спакойны,
І век дай жыцьця багабойны
Для службы Твае і для хвалы.

І Ангел Твайго супакою,
Што варту над намі трымае,
Хай цела, душу ўспамагае —
Няхай да нас прыйдзе з Табою!

Гарачы малітвы заносім:
Дай, Божа, для нас разграшэньне,
Праступкаў, грахоў адпушчэньне—
Прашчэньня у Госпада просім!

Дабра і духовай карысьці,
І згоды людзям, супакою:
Каб мы Тваей ласкай сьвятою
Маглі быць шчасьлівы калісьці!

# Наш адказ.

У папярэднім нумары, даючы адказ на артыкул „Слова“ № 13 „Историческія причины возникновенія и развитія католическаго ученія о главенствѣ папы Римскаго“, я ясна даказаў, што галоўнаю прычынаю главенства Папы Рымскага ёсьць ня што іншае, як установа Самога Госпада нашага Ісуса Хрыста. Ісус Хрыстос устанавіў сьв. Пётру галоўным кіраўніком цэрквы на зямлі, а япіскапы Рыму зьяўляюцца Ягонымі Наступнікамі. Гэтаму не пярэчыць, а нават пацьвярджае „Слово“: „У канцы, Рым меў славу гораду, зрошанага крывёю сьвятых Апосталаў Пётры і Паула і многіх тысячаў адважных вызнаўцаў Хрыста“.

Ня была прычынай сьвецкая ўлада Рыму, як галоўнага гораду ўсяе Рымскае Імпэрыі, бо нават і тады Папа Рымскі не перастаў кіраваць усёй царквою Хрыстовай, калі Канстанты Вялікі перанёс сталіцу на Усход да Візантыі (330 г.). Сам аўтор вышэйпрыведзенага артыкулу прызнае, што ўлада япіскапаў рымскіх тады яшчэ больш узрасла, папы рымскія мелі ня толькі духоўную, але і сьвецкую ўладу. Гэтак у „Слове“ № 14 чытаем:

„Пры Канстантыне Вялікім Рым страціў сваё мінулае дзяржаўнае значэньне і пышнату. Сталіцаю імпэрыі зрабілася Візантыя. Аднак-жа, становішча япіскапаў Рыму, у сувязі з гэтым, зусім не зьмянілася“.

Аўтор артыкулу хоча вытлумачыць узвышэньне аўтарытэту рымскіх япіскапаў тым, што рымскія імпэратары перанясьлі сваю сталіцу да Візантыі. Гэтым самым сабе пярэчыць, пярэчыць свайму цьверджаньню, што толькі дзеля сьвецкае павагі гораду Рыму, як сталіцы рымскіх імпэратараў, узрасла павага рымскіх япіскапаў. Лёгічна, калі перанесена была сталіца ў Візантыю, дык павінна-б змалець павага рымскіх япіскапаў.

Дзеля сьвецкай павагі сталіцы паявіўся ў царкве Хрыстовай новы патрыяршы пасад у Канстантынопалі (Візантыі), каторы ня з боскае установы і ня з волі Хрыста, але з волі візантыйскіх цароў стараўся заняць хаця-б другое месца ў царкоўнай іерархіі, а пасьля пачаў нават называцца Сусьветным Патрыярхам, і па сяньняшні дзень носіць гэты назоў, каторы, як ведама, не адпавядае запраўднасьці: сучасны „Сусьветны“ патрыярх Фоці мае сабе менш падуладных, як у некаторых парафіях пробашч каталіцкае царквы.

Агульна можна сказаць, што аўтор артыкулу прыводзіць доказы у № 14 „Слова“ на пацьверджаньне главенства Папы Рымскага. „Слово“ піша:

„Ведамы выпадкі, калі нават патрыярхі, паклiканыя быць асаблівымі старажамі веры і набожнасьці, рабіліся гэрэтыкамі, адсюль зразумелая рэч, што абаронцы праўдзівае веры Хрыстовай, гнаныя і прасьледа-

ваныя на Усходзе, шукалі падтрыманьня і пацехі на спакойным Захадзе, Стаўпы Цэрквы, сьвв. Апанас Александрыйскі, Іоан Залатавусны і іншыя, у часе цяжкае спробы зьвярталіся за парадаю да прадстаўнікоў усіх цэркваў, таксама і да прадстаўніка Цэрквы Рымскай".

Вельмі дзякуем за прызнаньне. Тут бачым, што вялікую павагу меў Папа Рымскі, калі зьвяртаюцца да яго япіскапы Усходу, патрыярхі, каб асудзіць некаторых патрыярхаў гэрэтыкаў. Аўтор артыкулу хоча вытлумачыць вышэйпрыведзеныя факты супакоем на Захадзе і, каб паменшыць значэньне Папы Рымскага, уставіў — „зьвярталіся за парадаю да прадстаўнікоў усіх цэркваў".

Загляньма да гісторыі, каб лепш пераканацца, як зьвярталіся япіскапы Усходу да Папы Рымскага, у якой справе і чаго ад яго хацелі. Калі на ўсё гэта зьвернем увагу, дык пераканаемся на гістарычных фактах, што ня можна гэтага „шуканьня парады" вытлумачыць толькі супакоем на Захадзе і ня можна прыроўніваць япіскапа Рыму да іншых япіскапаў Захаду.

Возьмем за прыклад справы, аб якіх успамінае „Слово". Перш за ўсё справу сьв. Апанаса Александрыйскага. Гэта ня былі простыя зносіны, а апэляцыя да Папы Рымскага, калі цэзар рымскі пазбавіў яго Александрыйскага пасаду. Падобную-ж справу меў і сьв. Іоан Залатавусны, шукаў апекі проці несправядлівага прыгавору цэзара і царыцы Еўдоксыі ні ў каго другога, як у Папы Рымскага.

Прыпомню яшчэ справу сьв. Флавіяна, каторы проці пастановы 135 япіскапаў у Эфэзе 449 г. пад старшынствам Діаскора, апэляваў да Папы Рымскага Лявона І.

Шмат яшчэ можна было-б прывясьці фактаў на пацьверджаньне праўды, што, як на Захадзе, так і на Ўсходзе, Папа Рымскі прызнаваўся галоўным кіраўніком Цэрквы Хрыстовай і да яго ў важных справах веры і набожнасьці япіскапы і патрыярхі Ўсходу зьвярталіся.

**(Даканчэньне у наступным нумары).**

*Злучэнец.*

---

# Сэмінарыя ў Дубне.

Дубенская Папская Ўсходняя Сэмінарыя, адчыненая, як ведама нашым чытачом, 14 кастрычніка 1931 г. (ў дзень Пакрава Прасьв. Багародз.), у канцы чэрвеня с. г. выпісала ў сваёй гісторыі першы акадэміцкі год памыснага існаваньня. Шаснаццаць клерыкаў-гадунцоў гэтае Сэмінарыі - пасунуліся адным курсам вышэй, каб даць месца сваім новым калегам, каторых Бог паклікаў да працы над зьдзейсьненьнем сьв. ідэі Царкоўнага злучэньня.

„Жніва багатае, ды работнікаў мала" (Мцьв. IX. 37) казаў калісь Збаўца. Гэтыя словы асабліва сумнай праўдай

гучаць датычна нашае Бацькаўшчыны, нашага Народу. Колькі трэба працаўнікоў, каб падняць духова і рэлігійна занядбаны народ!

Дык, што рабіць? „...прасеце Гаспадара жніва, каб выслаў работнікаў на жніва сваё“ (Мцьв. IX. 38).

Чытару, споўні запавет Госпада. Маліся, каб „Гаспадар жніва“ паслаў на сваю царкоўнаю ніву працаўнікоў, якія з любові да Хрыста і з любові да народу пайшлі-б шырыць у нашым народзе Ідэю царкоўнага злучэньня, ідэю сьв. Уніі. А ты, Моладзь беларуская, што чуеш у душы сьвяты агонь самаахвярнае, ідэйнае працы над рэлігійным аб'яднаньнем нашага народу, паслухай голасу Божага. Не марнуй, не гасі іскры Божай! Калі маеш адпаведную навуку, уступай у Духоўную Уніяцкую Сэмінарыю ў Дубне. Умовы прыняцьця да Сэмінарыі наступныя:

1) закончаная сярэдняя адукацыя (гімназія)

2. добрая знаёмасьць лацінскае мовы.

3. праўдзівае духоўнае пакліканьне, — г. зн. пацяг да ідэйнае місыянэрскае працы над пашырэньнем Уніі.

4. прыналежнасьць да ўсясьветнае Каталіцкае Царквы, таму праваслаўныя, жадаючыя ўступіць у Дубенскую Сэмінарыю, мусяць перад гэтым прыняць Унію.

З прашэньнямі зьвяртацца паводле адрэсу:

Papieskie Seminarjum Wschodnie. **Dubno.** (Wołyń).

# Хроніка.

**Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс у Дубліне.** Пачаты 22 чэрвеня с. г. скончыўся 26 чэрвеня Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс у Дубліне (Ірляндыя).

22 чэрвеня прыбыў да Дубліна дэлегат Папы Рымскага Яго Эмінэнцыя кардынал Ляуры. На прывітаньне Яго на прыстань прыбыло дзесяткі тысяч народу і Прэзыдэнт Ірляндыі Дэ-Валера. У Дубліне прывітаў папскага Легата лёрд-маёр Дубліна, цалуючы персьцень на руцэ і прыкленчыўшы.

Вельмі вялікае ўражаньне зрабіла прамова сьв. Айца з Рыму Піуса XI Папы Рымскага па радыё.

У Кангрэсе брала удзел 9 кардыналаў, 300 архіяпіскапаў і япіскапаў, каля 6 тысячаў сьвяшчэньнікаў і больш як 700 тысячаў народу.

**III Пінская канфэрэнцыя для сьвяшчэньнікаў у справе царкоўнае Уніі.** 30 і 31 жніўня і 1 верасьня с. г. адбудзецца III Пінская Канфэрэнцыя для сьвяшчэньнікаў у справе царкоўнае Уніі. Можна спадзявацца, што да гэтага часу Пінская Эпархія будзе мець свайго япіскапа.

На гэты зьезд прыбудуць з усіх бакоў Польшчы сьвяш-

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

чэньнікі, каторыя шчыра жадаюць навярненьня братоў праваслаўных. Будуць прачытаны рэфэраты выдатнымі вучонымі. Як ў леташнім, так і ў сёлеташнім зьездзе, вазьмуць удзел і япіскапы. Зьезды гэткія вельмі карысныя для сьвятой справы злучэньня хрысьціян.

**Лік навернутых да каталіцтва ў Злучаных Штатах.** За 1931 год навярнулася да каталіцтва ў Злучаных Штатах 40,269 чалавек.

# Календар

на м—ц Жнівень 1932 г.

**Стары стыль.** | **Новы стыль**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kaled. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | ЖНІВЕНЬ | | | ŽNIWIEŃ |
| 1 | Н | *8. н. па С.С.Д.*, Пад. сьв. К. | 14 | N | *13 n. pa S.S.D., Eŭzebija* |
| 2 | П | Пер. цела сьв. Сьцяпан. | 15 | P | **Uniebaŭziaćcie N. Dz.M.** |
| 3 | А | Ісаака Дал. | 16 | A | Jakima |
| 4 | С | 7 Сьв. Айцоў з Эф. | 17 | S | Jacka |
| 5 | Ч | Аўсенія | 18 | Č | Heleny |
| 6 | П | **Праабражэньне Гасп.** | 19 | P | Ludwika |
| 7 | С | Дамацыя | 20 | S | Bernarda |
| 8 | Н | *9 н. па С.С.Д*, Амільяна | 21 | N | *14 n. pa S.S.D.J.de Ch.* |
| 9 | П | Мацея | 22 | P | Cimachwieja |
| 10 | А | Лаўрына | 23 | A | Pilipa |
| 11 | С | Авілы | 24 | S | Baŭtramieja |
| 12 | Ч | Фоція і Анікі | 25 | Č | Ludwika |
| 13 | П | Максіма | 26 | P | M. B. Jasnahorskaj |
| 14 | С | Міхея | 27 | S | Jozafa Kalasantaha |
| 15 | Н | *10 н. па С.С.Д*, **Усьп Б** | 28 | N | *15. n. pa S.S.D., Aŭhusta.* |
| 16 | П | Пер. Абр. Гас. | 29 | P | Sciaćcie hał. Jana Chryśc. |
| 17 | А | Мірона | 30 | A | Ružy Lim. |
| 18 | С | Хлора | 31 | S | Rajmunda, Izabeli |
| | | | | | WIERASIEŃ |
| 19 | Ч | Андрэя | 1 | Č | Branisławy |
| 20 | П | Самуіла | 2 | P | Stefana |
| 21 | С | Тадэўша ап. | 3 | S | Symona słupn. |
| 22 | Н | *11 н. па С.С.Д*, Агатон. | 4 | N | *16 n. pa S.S.D.*, Razalii |
| 23 | П | Лупа | 5 | P | Łaŭryna |
| 24 | А | Аўціхея | 6 | A | Zachara |
| 25 | С | Варфаламея | 7 | S | Melchiora |
| 26 | Ч | Адрыяна | 8 | Č | **Naradžeńnie N. Dz. M.** |
| 27 | П | Пімена | 9 | P | Piotry Klawera |
| 28 | С | Аўгустына | 10 | S | Mikałaja z Toł. |
| 29 | Н | *12 н. па С.С.Д.*, С.Г. Ів. | 11 | N | *17 n. pa S.S.D.* Piot. i J. |
| 30 | П | Александра | 12 | P | *N. Im. M. Božaj* |
| 31 | А | Пал. пояса Пр. Дз. | 13 | A | Pilipa |